Забаўляльны часопіс

# Жэўжык

Нумар 1. Сакавік 2019



## Гукаем Вясну разам!

# Сёння ў нумары:



Я падрыхтаваў для цябе шмат цікавага: *На Саракі ляцелі з-за мора птакі* - пра што гэта? Ты даведаешся на старонках 4-5.

Паспрабуеш *адгадаць птушак і адказаць на мае пытанні*? Тады абавязкова паглядзі старонкі 6-7.

Я навучу цябе *варыць рэчыцкую кашу з гарбузом* (старонкі 10-11).

Яшчэ я падрыхтаваў для цябе *майстар-класы*, як рабіць падвясную птушку (старонкі 8-9 і старонкі 14-15).

Ці ты любіш *крыжаванкі*? Так! Тады хутчэй ідзі на старонку 19.

*Лабірынты* знойдзеш на старонках 12-13, а *рэбус* на старонцы 17.

# Вітаю, Дружа!

Як цябе клічуць?..

А мяне - Жэўжык.

Я люблю знаёміцца з новымі людзьмі, гуляць, вандраваць, чытаць і, вядома ж, гарэзіць. Карацей, я звычайны беларускі хлапчук. А, можа, і трошкі незвычайны?..

Бо імя маё цікавае, старажытнабеларускае. «Які спрытны! Як Жэўжык!» - казалі нашыя продкі. А ўсё таму што так звалі казачнага героя, неверагодна моцнага, спраўнага і добрага.

Ён мог адной рукою выцягнуць з вады лодку, выратаваць людзей, што апынуліся ў небяспецы на вадзе, мог утаймаваць буру і вецер.

Вось таму і сталі пазней бацькі клікаць жэўжыкамі сваіх хуткіх і вёрткіх дзетак. Вясёлае і файнае імя, праўда?!

А яшчэ я люблю рабіць падарункі. Таму падрыхтаваў для цябе гэты часопіс. Тут ты знойдзеш многа цікавай інфармацыі, майстар-класы і самаробкі, коміксы, загадкі і крыжаванкі. І ўсё гэта на роднай беларускай мове ;)

Трымай, чытай і весяліся, а яшчэ пішы мне свае лісты на электронны адрас:

chasopis.zheuzhyk@gmail.com.

*Давай рабіць цікавае выданне разам!*

# «На Саракі ляцелі з-за мора птакі»

Мы ўсе радуемся надыходу вясны. І снег даўно патаяў, і сонейка ласкава грэе, і нашыя крылатыя сябры вяртаюцца з выраю...

Вой, а што ж абазначае гэта слова?

Выраем здаўна беларусы называлі паўднёвыя землі, куды імкнуцца птушкі, каб перачакаць зіму і прыляцець назад.

Такую ж назву носяць і чароды пералётных птушак.

Нашыя продкі лічылі, што вырай - гэта рай, дзе расце Сусветнае дрэва, а на яго кроне сядзяць птушкі.

21-га сакавіка, на свята Саракі, божыя памочнікі жаўрукі «адмыкаюць» райскую браму і выпускаюць адтуль птушак дадому.

А ўвосень, на Узвіжанне, «замыкаюць» яе.



Таму так ўслаўляюцца жавароначкі ў народных песнях-вяснянках.

Яшчэ лічылася, што на Саракі з далёкага выраю прылятаюць на радзіму першыя 40 жаўручкоў.

А каб нашыя крылатыя сябры не блудзілі, Бог праклаў на небе з зорак Птушыную дарогу (Млечны шлях), па якой яны рухаюцца, каб трапіць у родны край.



Насэмрач першымі ў Беларусь прылятаюць гракі

Іх мы можам пабачыць ужо ў 1-й палове сакавіка.

Другімі «фінішуюць» шпакі.

Між іншым, гэтыя два віды



птушак вельмі добра прадказваюць надвор'е.

І калі яны не спяшаюцца адразу ж парадкаваць свае гняздзечкі, то хутка будзе мароз ці снегапад.

Следам за шпакамі мы будзем сустракаць любімых жавароначкаў (бачыш, яны ўсё ж трэцція).

Ну а потым вяртаюцца зяблікі, канаплянкі ды астатнія крылатыя пяюшачкі.

Цікава, што ў беларускіх павер'ях існаваў яшчэ і змяіны вырай! Ён размяшчаецца глыбока пад зямлёю, дзе зімуюць паўзуны.

**Між іншым**

На нашай планеце налічваецца больш за 8600 відаў птушак. Самая дробная - гэта амерыканская калібры вагай 2г, а самая буйная - афрыканскі 150-кілаграмовы страус. У Еўропе жыве 600 відаў птушак, 311 з якіх гняздуецца ў Беларусі.

А) Як ты пазнаеш птушку нават тады, калі ты яе не бачыш?






3

**Ці пазнаеш ты птушак?**

Напішы ўсе назвы птушак ў крыжаванцы і тады зможаш прачытаць назву яшчэ адной птушкі, якую, вядома ж, ведаеш.

Некалькі літар ужо напісана, каб табе было лягчэй.

Усе адказы знойдзеш на старонцы нумар 15.



1

Б) Чаму самцы больш яркія, чым самкі?




В) Чаму птушкі спяваюць?




Г) Чаму птушкі купаюцца ў пяску і пылу?







Д) Чаму ты не можаш некаторых птушак бачыць зімой?







Е) Чаму птушкі карысныя?

# Зробім самі падвясную птушку

На працягу сакавіка ў Беларусі здавён «гукалі» вясну. І напярэдадні гэтага свята ў Барысаўскім раёне Мінскай вобласці ляпілі гліняных жаўрукоў, якімі ўрыгожвалі хаты.

Так рабіла яшчэ ў 1980-х бабуля Параска Шматко з мястэчка Зембін. Сваіх птушачак яна вешала ля печкі, дзе яны пастаянна варушыліся ад цёплага паветра.

Цацкі гэтыя ляпіліся вельмі проста, таму давай паспрабуем аднавіць гэтую цікавую і старажытную традыцыю.

**1.** Жаўрук рабіўся з кавалка звычайнай гліны. Але падыйдзе і любы пластычны матэрыял: пластылін, салёнае цеста ці палімерная гліна.



Таксама табе спатрэбяцца наступныя інструменты для лепкі: спіца і драўляныя палачкі.

**2.** Вылепліваем з камяка гліны тулава птушкі. На спінцы наскрозь прабіваем спіцай дзірачку, каб пасля прапусціць вяровачку і падвесіць цацку.



**3**. Завостранай палачкай робім вочкі, наносім вузор на шыю, спінку.





**4**. Па баках і ў хвосціку робім неглыбокія дзірачкі, каб уставіць туды курыныя пёркі альбо саломінкі.

Вось такая птушачка атрымалася ў мяне!
Я буду ВЕЛЬМІ рады,
калі ты дашлеш мне фота тваёй птушкі
і раскажаш, як ты адсвяткаваў Гуканне Вясны!

Лісты можаш дасылаць на адрас:
chasopis.zheuzhyk@gmail.com

# «Пузікі»-гарбузікі

Думаем, што дзеці цяпер шмат чуюць пра здаровае харчаванне. Але падаецца, што гэта будзе нешта несмачнае і сумнае, праўда?.. Ды не заўсёды так!

На гэтай кулінарнай старонцы мы збіраемся пісаць цікавыя і невядомыя рэчы пра карысныя для дзетак прадукты і даваць незвычайныя рэцэпты страў, якія вы зможаце нават прыгатаваць самі.

Таму сёння пагаворым пра цудоўную гародніну, што праляжала ад самай восені да вясны ў сырым выглядзе і не папсавалася.

Гэта ўсім вядомы «пузік»-гарбузік :). А цябе называла так у маленстве мама, гладзячы па жывоціку?..

Увогуле, гарбузы падзяляюцца на ядомыя і тэхнічныя (з такіх робяць ёмістасці і музычныя інструменты).

А яшчэ ў нас на Палессі гарбузы вырошчваюць для ўгнаенняў. Гэта гародніна можа важыць ад 4 да 200 кг!

Давай разам разбірацца, што такога добрага ёсць у складзе гэтай гародніны:


@valeriana_0fficinalis

1. Бэта-карацін. Чым ярчэй гарбуз, тым болей гэтага рэчыва, якое ў нашым арганізме ператвараецца і вітамін А. Ён вельмі патрэбны для вачэй (асабліва школьнікам, што нямала часу праводзяць за кампутарам) і нармальнага росту костак.

2. Рэдкія вітаміны К і Т паляпшаюць абменныя працэсы і паскараюць вывядзенне шкодных рэчываў.

3. Калій і магній неабходныя чалавеку для нырак.

4. Вітамін С вельмі патрэбны табе зараз, каб не захварэць на прастуду.

5. Клятчатка дапаможа лепей засвоіць усе карысныя рэчывы ў складзе гарбуза.

Ну што, давай цяпер яшчэ прыгатуем штосьці смачненькае?!

Прапануем табе рэцэпт рэчыцкай кашкі з гарбузом ад бабулі Ніны:

1. Кавалак гарбуза ачысціць ад скуркі, парэзаць на кубікі і адварыць у вадзе 15 хвілін. Затым растаўчы яго.

2. Узяць паўшклянкі рысу і столькі ж проса. Змяшаць іх разам і прамыць.

3. Заліць крупы шклянкай вады і шклянкай малака, дабавіць туды патоўчаны гарбуз і варыць, памешваючы, да поўнай гатоўнасці.

4. У звараную кашу можна дабавіць жменьку разынак. Толькі не забудзь памыць іх.

5. Пачастуй смачнай стравай сябра ці маму.



Смачна есці!

# Дапамажы мне знайсці дарогу да кветачак!



# Падвясная птушка з паперы



**Табе спатрэбіцца:**
Рознакаляровы кардон,
алоўкі, пёркі
Клей
Налепкі
Нітка
Іголка
Нажніцы

**Як рабіць:**

1. Спачатку трэба выразаць выкрайку птушкі з часопіса, затым  перавесці яе на кардон і яшчэ раз выразаць. Не забудзь прарэзаць у месцах, што адзначаны на выкрайцы, і зрабіць дзірачку іголкай, каб потым падвесіць на нітку сваю птушку.

2. Зараз можаш упрыгожыць птушачку яркімі налепкамі ці размаляваць. Не забудзь намаляваць вочкі і дзюбу.

3. Прыклей пёркі-хвост, альбо ўстаў пёркі ў надрэзаныя месцы.

4. Крылы ўстаў у прарэз на спіне.

5. Засталося працягнуць нітку праз дзірачку і зрабіць вузел.

## Птушка гатова ўпрыгожваць твой пакой!



| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Г | Н | А | Р | Ц | Ы | З | Р | |
| Р | Ь | Ц | А | Л | Е | Т | У | К |
| Ы | Л | Ы | П | Я | | А | | А |
| М | Б | Я | Р | Л | К | Б | Э | В |
| О | | Р | А | Л | І | Ц | З | І |
| Т | Ы | О | З | А | В | Е | Н | Ц |
| В | Ы | Р | К | Р | З | | Ы | Ы |
| Ы | | А | Й | А | В | Я | Р | |
| Н | І | Л | Б | С | А | В | І | К |

схаванае слов:
смаржок

нарцыз
грымоты
вырай
бліны
пыльца
бярозавік
красавік
ралля
лета
бэз
рукавіцы

**Адказы на пытанні на стар. 6-7:**

А) Па спевах. Кожная птушка спявае сваю ўласную мелодыю.
Б) Яркая афарбоўка (як і песня) выконвае дзве важныя сігнальныя функцыі: яна інфармуе самак аб тым, што перад імі добры патэнцыйны партнёр, а самцоў - пра тое, што перад імі моцны канкурэнт, з якім лепш не звязвацца.
В) Птушкі такім чынам папярэджваюць усіх аб тым, што гэта іх тэрыторыя. А таксама для самак, каб прыцягнуць іх.
Г) Каб пазбавіцца ад розных шкоднікаў, якія з'яўляюцца ў пер'ях. Ад іх у птушак пачынаецца невыносны сверб па ўсім целе, пазбавіцца ад якога дапамагае купанне ў цёплым пяску або пылу.
Д) Не ўсе птушкі могуць перажыць холад, таму некаторыя з іх ляцяць на поўдзень.
Е) Таму што яны ядуць шмат жамяр.

**Крыжаванка стар. 6-7:**
1. Зязюля
2. Крапіўнік
3. Вяхір
4. Жулан
5. Сініца
6. Леска
7. Стрынатка

Заранка

**Старонка 17:**
Падарожнік, Валошка.
Пралеска, Цюльпан, Крокус, Кураслеп, Падбел


Ты чаго???
Зіма ж ужо
скончылася!
Т-Т-Т-Так, ал-л-
лле ж ма-а-а-
ашы-ы-ынка
я-я-я-яшчэ-э-э
пп-п-пра-а-а-
цуе-е-е-е




Яшчэ адна веснавая радасць - кветкі. Гэтыя расліны цешаць нас пасля доўгага халоднага перыяду сваёй прыгажосцю. Нават па колерах яны не надта стракатыя, а больш спакойныя, падобныя да беларускай прыроды, абуджанай пасля зімовага сну: белыя, як колішні снег, сінія, як сакавіц-кае неба, жоўтыя, як цёплыя праменьчыкі сонейка.

А давай жа прыгадаем разам назвы гэтых кетак!!!

## *Якія кветкі тут схаваліся?*








Адказы на старонцы 15




**Што ж задрылася?**
**Працяг будзе**
**у наступным нумары...**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Г | Н | А | Р | Ц | Ы | З | Р | Р |
| Р | Ь | Ц | А | Л | Е | Т | У | К |
| Ы | Л | Ы | П | Я | К | А | М | А |
| М | Б | Я | Р | Л | К | Б | Э | В |
| О | О | Р | А | Л | І | Ц | З | І |
| Т | Ы | О | З | А | В | Е | Н | Ц |
| В | Ы | Р | К | Р | З | А | Ы | Ы |
| Ы | С | А | Й | А | В | Я | Р | Ж |
| Н | І | Л | Б | С | А | В | І | К |

Знайдзі словы сярод літар. Словы можна прачытаць па гарызанталі, вертыкалі, злева направа, справа налева. Будзь вельмі ўважлівы. Калі знойдзеш усе словы, складзі слова з літар, якія засталіся.

Паспрабуй знайсці словы без падказкі!

Падказкі

1. Адтуль вяртаюцца птушкі
2. Робяць на Масленіцу
3. Кусты, што варта паглядзець у Батанічным садзе ў траўні
4. Вясенні месяц
5. Зямля пад пасевы
6. Прыродная акустычная з’ява, што часцей бывае ўвесну
7. Пыл з кветак, на які можа быць алергія
8. Кветка, што вырастае з цыбуліны
9. Сок з бярозы
10. Прыйшлі Грамніцы, скідай…!
11. Перасоўная выстава жывёл, якая можа прыехаць у твой горад, як толькі пацяплее
12. Надыходзіць пасля вясны

Схаванае слова: Адзін з ранніх грыбоў

Адказ на старонцы 15

Тэма наступнага нумару

# Вялікдзень



Нумар падрыхтавалі:
Наталка і Лёля

Шчырая падзяка за фатаграфіі:
Алене Ляшкевіч (стар. 2)
Вікторыі Буінай (стар. 10)
Таццяне Сіняўскай (стар. 20)

На тытульнай старонцы:
Радзім Бусел